www.nv-online.info

№ 7 (3952)

27 студзеня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Сёння яшчэ можна падпісацца на “Народную Волю” з тым, каб атрымліваць газету з 1 лютага. Вас чакаюць у паштовых аддзяленнях.**

СТОП-КАДР

## Баль праваслаўнай моладзі




У Мінску адбыўся VII баль праваслаўнай моладзі. Яго ўдзельнікамі сталі звыш 350 танцавальных пар з усіх куткоў Беларусі, а таксама госці з Расіі, Украіны і бліжэйшага замежжа. Тэма балю – сувязь часоў, сувязь паміж эпохамі, радасць, каханне і натхненне, якія прысутнічалі ў танцах у розныя часы.

ПАД ГРАДУСАМ

## *Снег, дождж, галалёдзіца*

У першай палове тыдня надвор’е будзе зімовае. Сёння ў многіх раёнах краіны пройдзе невялікі снег, тэмпература днём – ад мінус 4 да плюс 1 градуса.

У сераду і чацвер на большай частцы тэрыторыі прагназуецца кароткачасовы снег. Тэмпература ўначы складзе мінус 1–8 градусаў, пры праясненнях мінус 9–12, днём – ад мінус 4 да плюс 1 градуса.

З пятніцы надвор’е пагоршыцца. *«Яго пагаршэнне прынясе актыўны атмасферны фронт з Заходняй Еўропы,* – адзначыў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя **Дзмітрый Рабаў.** – *На большай частцы тэрыторыі чакаюцца ападкі, у асноўным снег, мокры снег. Месцамі мяцеліца, наліпанне мокрага снегу, на дарогах галалёдзіца. У асобных раёнах узмацненне ветру да 15–20 м/с. Тэмпература паветра ўначы складзе 1–6 марозу, днём – мінус 3 – плюс 2 градусы».*

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## На допінгу

Беларускі спорт – гэта не толькі алімпійскія перамогі Дар’і Домрачавай, Алы Цупер ці Антона Кушніра. Гэта яшчэ і сумная традыцыя з рэгулярнай перыядычнасцю даведвацца, што чарговы спартсмен дыскваліфікаваны з-за допінгу.

*“З 6 студзеня 2015 года два беларускія спартсмены атрымалі двухгадовыя дыскваліфікацыі за ўжыванне допінгу. Забароненыя прэпараты знайшлі ў майстара спорту па акадэмічным веславанні Максіма Радзько і дзюдаіста Івана Багданава”*, – ужо ў гэтым годзе адрапартавала Нацыянальнае антыдопінгавае агенцтва.

Адкрываю сайт гэтай арганізацыі, дзе апублікаваны спіс парушальнікаў. 2014 год. Руслан Кітаеў (веласпорт), Наталля Карэйва (лёгкая атлетыка), Марына Кучынская (веласпорт), Раман Кавальчук (грэка-рымская барацьба), Рычард Куроўскі (веласпорт)... Колькасць дыскваліфікаваных у 2013 годзе яшчэ большая.

*“Допінг прымаюць практычна ўсе,* – шчыра прызнаўся мне адзін з айчынных трэнераў. – *Проста адны яго лепш хаваюць, а іншыя горш. Барацьба вядзецца не толькі на стадыёнах, але і ў фармакалагічных лабараторыях. Пытанне ў тым, хто лепш “пачысціць” сябе. Так што на ўжыванні забароненых прэпаратаў зараз трапляюцца альбо бедныя, альбо дурныя”.*

Вам што-небудзь кажуць прозвішчы такіх дыскваліфікаваных беларускіх спартсменаў, як Варанчук, Дасько, Адаменка ці Рэзкая? Наўрад ці. Для таго, каб стаць зоркамі сусветнага масштабу, ім яшчэ трэба было расці і расці. Атрымліваецца, што моладзь сама губіць сваю кар’еру дзеля таго, каб з мінімумам высілкаў атрымаць максімум выгады. Хоць усе лічаць сябе невінаватымі.

Яны не ведаюць, якія могуць быць наступствы для здароўя? Напэўна, на той момант не. Чалавек зараней даў сабе ўстаноўку дасягнуць нейкай прамежкавай мэты, якая дазволіць папоўніць сваю кішэню. У нас наогул многія бацькі, калі аддаюць дзяцей у спорт, перш-наперш глядзяць, што будзе праз гады мець іх сын ці дачка ў фінансавым плане. У зборнай Люксембурга па футболе, напрыклад, гуляюць аматары, якія не грэбуюць сумяшчаць гульню з працай на пошце, у паліклініках, у офісах. Нарвежскі хакейны галкіпер Ларс Хаўген да таго, як патрапіў у мінскае “Дынама”, выступаў у Нарвегіі за мясцовую каманду “Манлеруд” і адначасова прадаваў білборды і дарожныя ўказальнікі. І нічога – карона з галавы не звалілася! А паспрабуйце прымусіць нашага сярэдняга футбаліста з заробкам у 30 мільёнаў у месяц пайсці падпрацоўваць паштальёнам...

Але ж існуюць і больш “бедныя” віды спорту. І чалавек, калі пачаў займацца, ужо лічыць сябе прафесіяналам. Грошы для многіх – галоўны стымул у спорце і ў жыцці. Людзі пераўтвараюцца ў гэтакія калькулятары на ножках, якія вераць, што мэта апраўдвае сродкі. Чаму б і не выкарыстаць допінг?

Неяк з гэтай нагоды разгаварыўся з эканамістам Барысам Жалібам. Барыс Мікалаевіч павярнуў размову ў іншы бок.

*“Спартсменам ёсць у каго вучыцца*, – сказаў ён. – *Бо беларуская эканоміка – на тым жа фінансавым допінгу. Чакаем знешніх пазык як манны нябеснай, дзяржава звыклася з такімі ін’екцыямі. Гэта прасцей, чым нечага дасягнуць самім. А нашы многія стратныя прадпрыемствы, якія ўтрымліваюцца на плыву толькі дзякуючы падтрымцы з боку дзяржавы, – гэта, як і ў спорце, тыя ж самыя допінг-парушальнікі Яны гуляюць не па справядлівых рынычных правілах, і іх таксама ўжо даўно пара дыскваліфікаваць. Аднак створана такая сістэма. Што ў эканоміцы, што ў спорце. У гэтым жыцці ўсё ўзаемазвязана. А яблык ад яблыні недалёка падае”.*

Не ведаю, наколькі да месца такія паралелі, бо допінг – гэта ўсё ж такі сусветная праблема. Хочацца проста нагадаць спартсменам, якія ўжываюць забароненыя прэпараты: мэта не заўсёды апраўдвае сродкі. Калі не вераць, то могуць запытаць у тых аматараў допінгу, якія сёння гадуюць дзяцей-інвалідаў...

**Алесь СІВЫ.**

КАФЕ НА КРЕЩАТИКЕ

*Александр ФЕДУТА*

## Обыкновенные герои Украины

**То, что в Украине идет война, понимают все. Поэтому такие противоречивые сводки сопровождали многодневную оборону Донецкого аэропорта людьми, которых назвали «киборгами». В медицине, подсказывает Википедия, киборг – биологический организм, содержащий механические или электронные компоненты, машино-человеческий гибрид (в НФ, гипотетике и т. п.). Но это – согласно Википедии. В жизни оказалось сложнее.**

**Так получилось, что я хорошо помню Донецкий аэропорт. В первый раз я прилетел туда в 1992 году на научную конференцию в университет. Научная конференция была совершенно мирной – по теории литературы. Предполагалось, что в Донецке я и буду защищать свою кандидатскую диссертацию.**

**В советские времена Донецкий университет считался местом сверхлиберальным. Тамошнее светило, известный специалист по теории литературы профессор Михаил Моисеевич Гиршман давал приют всем, кого изгоняла советская власть. Так в свое время он стал научным руководителем моего будущего научного руководителя, Игоря Вячеславовича Егорова, изгнанного отовсюду за распространение рукописей Солженицына. И Юрий Михайлович Лотман, гениальный литературовед позднесоветской эпохи, приезжал туда оппонировать на защитах таких же опальных.**

**Мне не повезло. В Украине как раз началась реформа образования, и было неизвестно, останется ли в Донецке совет по защите диссертаций. Но в общей сложности с 1992-го по 1999 год летал я в Донецк раз восемь. И еще дважды – уже в нынешнем веке. Так что здание аэропорта, вполне современное, я помню очень хорошо. И представляю себе, как оно выглядит сейчас.**

**Как руины.**

**Руины, из которых выходят «киборги».**

**Можно по-разному оценивать то, что происходит сейчас в Украине. И в украинской политике, которая делается в Киеве, и в том кошмарном месиве металла, крови и грязи, которое предстает с экранов телевизоров и компьютерных дисплеев. Вероятно, даже среди читателей «Народной Воли» есть те, кто сомневается в целесообразности всего происходящего.**

**Я не берусь оценивать всю эту необъявленную войну. Но одно для меня несомненно. Это – подвиг тех, кто назвал себя «киборгами».**

**242 дня они держали оборону Донецкого аэропорта. И, как утверждает Министерство обороны Украины, держат ее и сегодня. Просто некоторые объекты на территории аэропорта настолько разрушены, что оборонять просто нечего. Взорвана взлетная полоса, невозможно доставлять боеприпасы. Поэтому часть бойцов была вынуждена покинуть аэропорт.**

**242 дня под огнем противника, которому боеприпасы доставляют свободно. Который имеет возможность заменить раненых на здоровых. За спиной которого стоит мощное государство, поставившее на карту свою честь, а потому не смущающееся в выборе средств достижения поставленной цели.**

**Что защищали эти бойцы? Почему не вели себя так, как большинство крымских офицеров, донецких и луганских милиционеров и «чекистов»? Почему не приняли никаких ультиматумов и не сдались на милость противника?**

**Потому что в Украине выросло принципиально новое поколение мужчин. Тех, кому есть что защищать. Не ахметовские и коломойские миллиарды. Ради них жизнью не рискуют. Жизнью рискуют, защищая Родину.**

**Они защищали Родину. Понятно, что Донецкий аэропорт – мелочь в масштабах Украины. Не Мариуполь и не Горловка с их полумиллионным (до войны) населением. Даже не точка на карте. Но в их сознании эта «даже не точка» стала осязаемым символом Украины.**

**Те, кто назвал себя «киборгами», оказались настоящими людьми. Людьми, которых уважаешь. 242 дня против превосходящих сил противника – это много. Очень много.**

**У гениального Бориса Васильева в романе «В списках не значился» сильная финальная сцена. Николай Плужников, последний из защитников Брестской крепости, покидает руины. И враги восхищаются его мужеством. Так бывает в романах. Так не всегда бывает на самом деле.**

**Оказывается, есть разница между немецким фашистом в романе и донецким фашистом в реальной жизни. Немецкий фашист в романе отдает герою честь. Донецкий фашист избивает его, надев на него предварительно наручники. Эти страшные кадры сегодня выставлены в интернете. Смотреть их без содрогания нельзя.**

**Все понятно. Этим старикам, лица которых журналистская камера старается не показывать, сказали, что этот украинский солдат-«киборг» виноват во всем. Что именно он испортил им жизнь. И старики – которые не фашисты, а просто «ватники» (еще одно вошедшее в нашу жизнь «новое» слово) – вымещают на нем свой ужас и свою боль. А журналисты, снимающие эту сцену, хорошо понимают, что происходит – поэтому не показывают лица. Потому что знают: Донецк снова станет частью Украины. И сцена избиения этого безоружного, молчащего, в наручниках парня станет – как на суде в Нюрнберге – свидетельством того, что на самом деле происходило на Донбассе в 2014–2015 годах.**

**Это уже было. В том же Донецке совсем недавно привязали к позорному столбу женщину, все преступление которой сводилось к тому, что у нее нашли книги на украинском языке. Было совсем недавно.**

**Донецкий аэропорт и защищавшие его «киборги» стали символами того, что Украину не взять. Можно стереть с лица земли. Взять силой – нельзя. Новая Украина. Та, которая не в Киеве и даже не во Львове. Та, которая в сознании своих граждан. Которую нельзя сдать – даже если вдруг поступит приказ.**

**Некто Захарченко, «смотрящий» за всем донецким кошмаром, распорядился провести пленных «киборгов» маршем по Донецку. В отличие от прошлого такого «марша», донецкие «власти» поняли, что негативный резонанс будет выше положительного результата. Поэтому придумали специальную «отмазку»: дескать, ведем «на экскурсию» – к месту расстрелянного накануне троллейбуса. Но смысл очевиден: жителям Донецка показывают – вот ваши враги! Вот кто виноват во всем!**

**Понятно, что организаторам этого «действа» никогда не будет стыдно. В них уже давно осталось мало человеческого. Механизмы, действующие так, как и положено механизмам, не чувствующим боли. Только вот «киборгами» язык не поворачивается их назвать. Это слово теперь уже навсегда закреплено в сознании за защитниками Донецкого аэропорта. За теми, кому нечего было терять, кроме собственных жизней. За обыкновенными героями новой Украины.**

БЕЛАРУСЬ–ЕЎРОПА

## Еўрапейскія калегі не супраць бачыць Аляксандра Лукашэнку

Перад Аляксандрам Лукашэнкам, які на дадзены момант з’яўляецца неўязным у ЕС, дзверы ў Еўропу могуць быць адчынены.

Па крайняй меры на саміце “Усходняга партнёрства”, які ў маі гэтага года пройдзе ў Рызе, еўрапейскія калегі не супраць бачыць Аляксандра Лукашэнку. Пра перамовы аб прысутнасці Беларусі на мерапрыемстве ў Латвіі паведаміў дзяржсакратар латвійскага МЗС Андрэйс Пілдэговічс, які наведаў Мінск дзеля кансультацый.

*“Мы хацелі б бачыць Беларусь прадстаўленай, магчыма, на самым высокім узроўні,* – сказаў дыпламат. – *Ці будзе магчымасць гэтага высокага ўзроўню – пакажуць бліжэйшыя месяцы. Канчатковае рашэнне будзе прымацца кіраўніцтвам Беларусі”.*

Умовы ўдзелу кіраўніка Беларусі ў саміце Андрэйс Пілдэговічс не акрэсліў, але сказаў, што ў Латвіі адчуваюць пэўную зацікаўленасць беларускага ўрада ісці наперад.

Нагадаем, што галоўнае патрабаванне Еўропы зараз – вызваленне беларускіх палітзняволеных. Не выключана, што дзеля магчымасці ўдзелу Аляксандра Лукашэнкі ў мерапрыемстве ў Рызе нехта з іх можа быць вызвалены.

РЭПЛІКА

## Чаму да помніка Тарасу Шаўчэнку нельга ўскласці кветкі?

Неабыякавыя людзі ў Польшчы патрабавалі ля будынка беларускай амбасады, каб былі вызвалены пяцёра нашых землякоў, якіх пакаралі арыштам за тое, што... усклалі кветкі да помніка Тарасу Шаўчэнку ў Мінску, а таксама праспявалі гімн Украіны і беларускі “Магутны Божа”. Зразумела, беларусы таксама могуць патрабаваць вызвалення нашых суграмадзян. Але лёгка прадказаць, што за гэта давядзецца заплаціць штраф альбо некалькі сутак сваёй свабоды.

Нагадаем, 22 студзеня супрацоўнікі міліцыі ля помніка Тарасу Шаўчэнку затрымалі дзевяць чалавек і адвезлі іх у міліцыю Цэнтральнага раёна Мінска. Там тры гадзіны людзей трымалі тварам да сцяны. Прысесці не дазвалялі нікому, нават пенсіянерцы Ніне Багінскай, нягледзячы на сталы ўзрост жанчыны.

Пасля поўначы вызвалілі чатырох чалавек – **Ніну БАГІНСКУЮ**, **Зміцера ЗАХАРЭВІЧА, Валерыю ЧАРНАМОРЦАВУ і Юрыя ВАЎЧКА.** У міліцыі засталіся пяць чалавек – **Вольга МІКАЛАЙЧЫК** (яна трымала партрэт Жызнеўскага, які загінуў на Майдане), **Алесь МАКАЕЎ, Яўген БАТУРА**, **Максім ВІНЯРСКІ і Мікола КОЛАС**. Супраць іх і Ніны Багінскай склалі адміністрацыйныя пратаколы, абвінавацiўшы ва ўдзеле ў несанкцыянаваным пікеце. На наступны дзень затрыманых прывезлі з ізалятара ў будынак міліцыі і ў суд адвозіць не сталі. Навошта? Суддзя сама прыехала ў міліцыю і разгледзела пратаколы. Вынік – ад пяці да 15 сутак арышту, а пенсіянерка Ніна Багінская мусіць заплаціць 3 мільёны 600 тысяч рублёў штрафу.

Нікога даўно не здзіўляе, калі на суд не пускаюць сваякоў і сяброў абвінавачаных, не здзіўляе і тое, што суддзя пагаджаецца са сведчаннямі міліцыянераў, хаця часам яны выглядаюць проста абсурднымі. Але гэтым разам навіна ўскалыхнула ўсіх. Бо як можна было затрымаць, а потым яшчэ і пасадзіць людзей, якія ўскладалі кветкі да помніка?

Крыху раней, 16 студзеня, я сама была сведкай, калі таксама была спроба затрымаць людзей за аналагічнае “правапарушэнне”. Тады да помніка “Кабзару” прыйшло некалькі чалавек, запалілі свечкі, усклалі кветкі, каб ушанаваць памяць загінуўшых у тэракце пад Валнавахай.

Ахоўнікі (беларускія міліцыянеры, што дзяжураць ля дыпмісій) прыбеглі амаль адразу: два – з боку украінскай амбасады, адзін – з боку кіргізскага пасольства. Яны патрабавалі дакументы, перапісвалі пашпартныя дадзеныя... Простае пытанне “А чаму нельга пакласці кветкі да помніка?” выклікала ў іх сапраўдны ступар. А потым адзін з міліцыянераў адказаў: “Ну, трэба ж разабрацца, каму гэты помнік і каму ён належыць. Усё ж не так проста”.

Анекдот ды і толькі!

Помнік Тарасу Шаўчэнку – гэта каму помнік?

Помнік стаіць у Мінску – дык каму ён належыць?

Чаму ўскласці кветкі – гэта “не так проста”, а масавая акцыя, якую нельга правесці без дазволу ўлад?

Уся гэтая сітуацыя вакол помніка знакамітаму ўкраінскаму пісьменніку выклікае шмат пытанняў. Але галоўнае з іх: “Хто канкрэтна ў беларускай уладзе не хоча бачыць ніякіх праяў салідарнасці з украінскім народам, прадстаўнікі якога гінуць штодня на неабвешчанай вайне?..”

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЛІЧБЫ

## Пікіруе...

*Цягам першага месяца беларускі рубель значна аслабеў да канверціруемай валюты. Як мяняўся курс айчынных грошай да еўра і долара ЗША (па курсе Нацбанка)*

| Дата | Курс долара | Курс еўра |
|---|---|---|
| 1 студзеня | 11.900 | 14.460 |
| 6 студзеня | 12.740 | 15.230 |
| 9 студзеня | 13.760 | 16.240 |
| 12 студзеня | 14,060 | 16.570 |
| 15 студзеня | 15.010 | 17.710 |
| 19 студзеня | 14.880 | 17.320 |
| 22 студзеня | 14.910 | 17.240 |
| 27 студзеня | 15.100 | 16.910 |

Што будзе далей?

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

ПРОГНОЗЫ

## Население Беларуси будет уменьшаться

*Такой прогноз ресурсного центра Фонда ООН в области народонаселения.*

К 2050 году численность населения уменьшится в 33 государствах мира, свидетельствуют данные Организации Объединенных Наций. Беларусь в числе этих стран.

Эксперты определяют уровень рождаемости в Беларуси как достаточно низкий: суммарный коэффициент рождаемости составляет 1,6 на одну женщину. Правда, это соответствует уровню рождаемости в наиболее развитых странах мира, в том числе и в Европе. Причем среди стран Центральной и Восточной Европы Беларусь характеризуется одним из самых высоких показателей рождаемости в данном регионе.

Что касается дальнейшего развития демографических процессов в Беларуси, то можно предположить, что сокращение численности населения страны будет происходить вследствие отрицательного естественного прироста. Согласно прогнозным оценкам, наибольшие демографические потери понесет сельская местность, тогда как ситуация в городах будет более благоприятной.

К 2030 году городское население увеличится на 2,6% (с 7,22 млн до 7,41 млн человек), а его доля достигнет 80%. В то же время ожидается, что численность сельского населения сократится в прогнозируемом периоде почти на 400 тыс. человек и составит в 2030 году 1,85 млн человек. Причем численность населения уменьшится во всех регионах, за исключением Минска, население которого будет увеличиваться медленными темпами.

К СЛОВУ

### *Рожать не торопятся*

В последнее время белоруски, как и европейки, не торопятся становиться мамочками. В 2013 году в Беларуси средний возраст женщины при рождении ребенка составил 28 лет, а при рождении первенца – 25,4 года. Также характерна тенденция увеличения среднего возраста при вступлении в первый брак: у женщин – 25 лет, у мужчин 27,1 года.

**Галина ГОНЧАРИК.**

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ



## В поле зрения

С годами глаза начинают хуже видеть. Мы теряем зрение из-за пожилого возраста, наследственности, условий работы, проблем с кровеносными сосудами.

**Почему прогрессирует близорукость?**
**Что выбрать: контактные линзы или очки?**
**Чем опасно отслоение сетчатки?**
**Дальнозоркость после 40 лет: норма или патология?**
**Каковы первые признаки катаракты?**

На эти и другие вопросы на «Прямой линии» ответит врач-офтальмолог высшей категории, заведующая офтальмологическим отделением медицинского центра «ЛОДЭ» **Ольга Петровна СПИГЛАЗОВА.**

Звоните во вторник 3 февраля с 16.00 до 17.30 по телефону **328-68-41.**

Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте nvonlineinfo@gmail.com с пометкой «Прямая линия».

ГРОШЫ

# “Газпром” падкінуў...

Беларусь пазычыла грошы ў “Газпрома”. Пазыка прыцягнута праз “Белгазпромбанк”, які атрымаў крэдыт ад сваіх акцыянераў – «Газпрома» і «Газпромбанка».

Сума выдадзеных у расійскіх рублях сродкаў, роўная 150 мільёнам долараў, гаворыцца ў паведамленні прэсавай службы банка. Грошы прызначаны на ўмацаванне банкаўскай сістэмы Беларусі, на падтрыманне разлікаў у расійскіх рублях за пастаўленыя ў Беларусь энергарэсурсы. “Амаль у поўным аб’ёме яны былі накіраваны на крэдытаванне абласных газазабеспячальных прадпрыемстваў краіны, – заявіў старшыня праўлення “Белгазпромбанка” Віктар Бабарыка.

Паводле слоў кіраўніка банка, атрыманыя расійскія рублі пойдуць на абслугоўванне экспартных прадпрыемстваў, арыентаваных на расійскі рынак, што дазволіць падтрымаць экспарт беларускай прадукцыі ў Расію.

КАК ЭТО БЫЛО...

# Прерванный полет,

## *или Мое хождение во власть*

*(Окончание. Начало в №6.)*

### Обращение в ООН



Меня не оставляла обида за несправедливое освобождение от должности и за хамское отношение со стороны властей предержащих. По сути, меня вытолкали в шею из Конституционного суда, не дав на дорогу даже куска хлеба. И я решил высказать свое несогласие с такими действиями.

В феврале 1997 г. обратился с иском в суд Ленинского района г. Минска о восстановлении меня в должности судьи Конституционного суда, мотивируя это тем, что такого основания освобождения от должности нет в законодательстве. Суд отказался принять мое заявление к рассмотрению. Это решение обжаловал в Минский городской суд. Тот же результат. Тогда подал жалобу в Верховный суд.

На приеме знакомый судья подсказал, что надо жаловаться в Комитет ООН по правам человека. Так я и сделал, обратившись в числе первых граждан Беларуси в эту международную инстанцию.

Процедура рассмотрения обращений в Комитете ООН достаточно сложная и длительная. Она предусматривает согласование позиции с властями страны, которые высказывают свои возражения. В результате всяческих проволочек решение по моей жалобе было принято лишь по прошествии пяти лет – 5 августа 2003 года.

В решении Комитет ООН указал на три нарушения властями моих прав. Первое: парламент избрал меня судьей на 11 лет, и никакие «поправки» в Конституцию не могли привести к сокращению срока моих полномочий.

Кстати, на этот счет имеется прямое указание в Законе «О порядке вступления в силу Конституции Республики Беларусь» от 15 марта 1994 года. В статье 7 этого Закона записано: «Должностные лица, избранные или назначенные Верховным Советом Республики Беларусь 12-го созыва, сохраняют свои полномочия в течение сроков, установленных законодательством». То есть никто не мог освободить меня от должности судьи Конституционного суда, кроме случаев, предусмотренных в Законе «О Конституционном суде Республики Беларусь» (ст.18).

Второе: мне не были предоставлены эффективные средства правовой защиты, как того требует часть 3 статьи 2 Международного пакта о гражданских и политических правах. Это означает, что мне отказали в праве на судебную защиту и не стали рассматривать мой иск о восстановлении в должности судьи.

Однако власти Беларуси проигнорировали мое право на судебную защиту (ст.61 Конституции). Тем самым они понудили меня использовать международно-правовые средства защиты и лишили возможности использовать национальные средства правовой защиты.

Третье: Комитет указал, что отстранение заявителя от должности судьи за восемь лет до окончания срока его полномочий является *«наступлением на независимость судебной системы и неуважением к праву заявителя – при общих условиях равенства – на службу в государственной системе в своей стране».*

Комитет ООН постановил, что заявитель имеет право на эффективное средство судебной защиты, включая компенсацию.

Напомню, что это было 5 августа 2003 года. И что? Ничего. Меня даже не проинформировали о принятом решении.

### Какой выход?

К настоящему времени Комитет ООН по правам человека принял уже больше 60 решений по обращениям граждан Республики Беларусь. Типичными нарушениями являются нарушения политических прав, в том числе: на проведение мирных манифестаций, на объединение, на свободу слова, на участие в свободных выборах, на доступ к государственной службе. Нарушаются также и гражданские права (право на жизнь, право на неприкосновенность и достоинство личности, право на справедливый суд и др.).

Количество жалоб от Беларуси в Комитете ООН по правам человека увеличивается из года в год. Сейчас в «очереди» на рассмотрение находится еще более 80 обращений. Дело в том, что больше белорусам некуда жаловаться: наша страна находится вне рамок Совета Европы, где функционирует Европейский суд по правам человека.

Проблема состоит еще и в том, что власти нынешней Беларуси игнорируют решения Комитета ООН. Так, чиновники внешнеполитического ведомства почему-то считают, что решения Комитета – это всего лишь «рекомендации».

Понятное дело, что представители власти не желают проводить «работу над ошибками». По этому поводу не хочется даже с ними дискутировать. Тем более что в каждом решении Комитета указывается, что Беларусь приняла на себя обязательство *«обеспечить всем гражданам на своей территории и находящимся под ее юрисдикцией лицам признанные в Международном пакте права».*

Очевидно, что надо как-то разрешать возникшую ситуацию. Если искать выход в рамках действующей системы власти, то можно предложить принять соответствующий закон о порядке исполнения Республикой Беларусь международных обязательств в области прав человека. В этом законе следует записать, как исправить допущенные в отношении гражданина нарушения, если они установлены Комитетом ООН по правам человека. Видимо, в качестве такого инструмента может выступать суд. Он же может решить и вопрос о справедливой компенсации за вред, причиненный гражданину незаконными действиями органов власти.

Без принятия такого закона власти вряд ли захотят что-то делать для «обиженных» граждан. Но здесь возникает еще один вопрос: а захотят ли власти принимать такой закон? Скорее всего, не захотят. И что тогда делать? Опять жаловаться в ООН на невыполнение белорусскими властями своих обязательств по линии прав человека. Получается замкнутый круг.

Мы, граждане Беларуси, которые обращались в Комитет ООН по правам человека, попытались объединиться в республиканскую организацию «Движение сторонников за реализацию Международного пакта о гражданских и политических правах» (сокращенно – «Пакт»). Но Министерство юстиции отказало нам в регистрации. Жалоба в Верховный суд результатов не дала. Опять тупик.

Стоит ли вообще что-то делать? Может быть, просто ждать, когда уйдет в прошлое старая система власти и когда придет новый президент?

### Здесь и сейчас

Лично я хотел бы дождаться справедливости как можно скорее. Тем более что со дня моего незаконного увольнения прошло уже 18 лет, а со дня принятия решения Комитета ООН – 12 лет. Сколько еще можно ждать? Ведь уходят наши годы, наши возможности. Нарушаются почти все наши права, в том числе право быть президентом *(об этом убедительно написал в своем обращении в Конституционный суд депутат Верховного Совета 13-го созыва Вячеслав Герасименко в публикации «Устранить дискриминацию!». См.: «НВ», 13.01.2015).*

Может, пора нам реформировать старую систему власти? Может, нам вовсе не нужна должность президента с его обслуживающим аппаратом? Пусть главой государства будет по должности председатель парламента. Это вполне возможно. Надо только восстановить действие Конституции 1994 года и избрать демократический парламент. Тогда будет и компетентное правительство, и независимый суд. Все тогда у нас будет!

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**доктор юридических наук,**
**профессор.**

БЛІЦ–КАМЕНТАРЫЙ

# ...Каб голас кожнага грамадзяніна быў пачуты ўладай

***Незалежныя каментатары адразу ўчапіліся за інфармацыю пра тое, што, паводле дадзеных Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (зарэгістраваны ў Літве), рэйтынг Аляксандра Лукашэнкі знізіўся. Адны сцвярджаюць, што такога не можа быць, другія, наадварот, прагназуюць і далейшае падзенне папулярнасці кіраўніка Беларусі. “Народная Воля” вырашыла пацікавіцца, што на гэты конт думаюць не палітыкі і аналітыкі, а простыя людзі.***



**Ігар КОЎГАН, вадзіцель маршруткі:**

– Я за Лукашэнку. Ніхто нічога лепшага тут не зробіць. Што ні кажы, а ў Беларусі людзі не галодныя. Вось і добра!

**Канстанцін БРУШКО, былы вайсковец:**

– Эканамічная сітуацыя пагаршаецца, таму і рэйтынг падае. Гэта ж простая арыфметыка. Усе ж хочуць жыць у рэальна квітнеючай краіне, а не чытаць пра гэта на рэкламных дошках. Як гэта можна было, каб чыноўнікі другі раз запар сказалі, што валюта не падаражэе, а на другі дзень зноў зладзіць людзям такі “сюрпрыз”?! Колькі можна падманваць народ?!

**Таццяна ЛАЗОЎСКАЯ, дызайнер інтэр’ера:**

– Я сярод тых, хто падтрымлівае Лукашэнку. Так, кошты растуць, але і людзей у нас багатых шмат. Я бачу, як жывуць мае заказчыкі. Людзі могуць дазволіць сабе і добры рамонт, і добрую мэблю, і добры аўтамабіль. Я сама добра зарабляю і магу сабе дазволіць адпачынак за мяжой. Так што ў мяне няма ніякіх падстаў не давяраць уладзе. А тое, што долар вырас, дык у Расіі тое ж самае, а ў іх жа і рэсурсы прыродныя ёсць. Што тады пра нас казаць?

**Тамара МАЦКЕВІЧ, намесніца старшыні ГА “Таварыства беларускай школы”:**

– Працэс зніжэння рэйтынгу А. Лукашэнкі непазбежны, і гэтаму ёсць некалькі прычын. Першая: Лукашэнка прайграў інфармацыйную вайну Расіі. Расія абвастрыла прапаганду ў звязку з украінскімі падзеямі. Лукашэнка ў свой час пазбавіўся інтэлектуалаў у дзяржаўных масмедыя і інтэлектуальных сферах. Стварыўся імідж “я навяду парадак, патрэбна моцная рука”, але гледачы ўбачылі, што, аказваецца, у Расіі значна больш моцная рука. Ініцыятыва паспяхова перахоплена цалкам. Другая прычына, натуральна, палягае ў цяжкай эканамічнай сітуацыі. Трэцяя – гэта няўдалая спроба задушыць усё беларускае. Атрымаўся адваротны эфект. Пра гэта сведчаць тыя ж вышыванкі, моўныя курсы, беларускія праграмы, якія набываюць усё больш масавы водгук у грамадстве.

**Юрый РАШЭТНІКАЎ, былы вайсковец, цяпер ахоўнік:**

– 34 гады таму я прыехаў з Расіі ў Беларусь і мне падабаецца Лукашэнка. Нам, рускім людзям, жывецца тут, як дома. Ва ўсялякім выпадку не так, як нашым суайчыннікам у іншых краінах. Ніхто мяне і маіх дзяцей не прымушае ведаць беларускую мову. Ды многія беларусы яе не ведаюць.

А што да эканомікі, то, як бы там ні было, але Расія Беларусі дапаможа, і мы галадаць не будзем.

**Іван БУЦЬКО, пенсіянер, былы настаўнік:**

– Я нават не чакаў такіх высокіх лічбаў. Можа, пры апытанні патрапілі на нейкіх бізнесменаў? Паглядзіце, колькі разоў гаварылася, што бюджэтнікам падвысяць заробкі, а ў выніку... Што б адказалі настаўнікі, медыкі, сацыяльныя работнікі, навукоўцы?.. Справа нават не ў курсе валют, а ў тым, што мы згубілі нармальныя адносіны з многімі краінамі. Моладзь у вялікай колькасці з’язджае за мяжу, бо не бачыць тут ніякіх перспектыў для сябе. Пра які тады рэйтынг можна гаварыць? Лічу, што лічба яшчэ значна завышана...

**Валянціна МІЛЮЦІНА, грамадская актывістка, былая настаўніца:**

– Рэйтынг падае, бо абяцанні з экрана не падмацоўваюцца жыццём. Тэлебачанне пераўтварылася ў нейкі паралельны свет, людзі ж разумеюць, што рэчаіснасць абсалютна іншая. Свядомыя беларусы не задаволены тым, што мы трапілі ў залежнасць ад Расіі і яна з кожным днём толькі ўзмацняецца. Між тым мы ж бачым, як жывуць нашы суседзі на Захадзе.

**Апытанне вяла**
**Любоў ЛУНЁВА.**

### Ад рэдакцыі

Як бачым, меркаванні самыя розныя. Але ж важна, каб голас кожнага грамадзяніна быў пачуты ўладай. Сапраўднае волевыяўленне народа магчыма толькі пры правядзенні дэмакратычных выбараў. Таму трэба дабівацца, каб менавіта такія былі ў Беларусі.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

# Остановит ли Лукашенко Путина?

Биржевой валютный рынок и наличный валютный рынок – это, образно говоря, сообщающийся сосуд. Не должно быть так, что на бирже в отдельные дни рубль укреплялся, отыгрывал свои позиции к доллару или евро, а на наличном рынке все равно наблюдался дефицит валюты в виде очередей к пунктам ее обмена. А именно такая картина имела место. Следовательно, говорить о достижении рублем равновесных курсов преждевременно.

Так, пиковое значение курса доллара на биржевых торгах зафиксировано 14 января – 15.010 рублей, после чего доллар стал дешеветь. Поэтому, несмотря на некоторое укрепление «зайчика» в отдельные дни торговых биржевых сессий, главный тренд его котировок останется прежним: на мой взгляд, он будет девальвироваться к доллару и евро и дальше. С момента введения сбора на покупку валюты белорусский рубль обвалился на 40%. Станции техобслуживания, интернет-магазины котируют сегодня доллар по 15.500–16.000 рублей. Туроператоры деньги на турпутевки принимают только в валюте.

Естественно, вместе с народом многие эксперты задаются вопросом: где у белорусского рубля дно в его падении? Однозначного ответа нет. Если Нацбанк обещал практически не вмешиваться в биржевые торги и покрывать дефицит валюты лишь в случае сглаживания резких колебаний курсов, и если так будет на практике, то дно будет достигаться через уравновешивание на бирже спроса и предложения на валюту. Например, если спрос превышает предложение, то цена валюты будет расти, пока спрос не уменьшится до величины предложения, то есть уравновешивание будет за счет девальвации рубля. Валюта ведь тоже товар. Когда картошки на рынке мало, она дорожает. Когда на руках у ее покупателей много денег, она также дорожает. Поэтому напрашивается и другой вопрос: какой будет величина рублевой эмиссии, которую будет совершать Нацбанк, и сколько будет валютных поступлений в страну? А в основном – это экспорт. Короче говоря, если наш рубль отпущен в свободное плавание, его курс должен быть равновесным.

Есть и другой ответ. Белорусский рубль будет девальвироваться столько, сколько будет обесцениваться к доллару и евро рубль российский. Россия наш основной торговый партнер. Прошедший год ярко показал, какие потери несет белорусская экономика от разницы в скорости падения «зайчика» и «деревянного». Наша экономика намертво привязана к российской. После некоторого укрепления российский рубль вновь перешагнул 66 единиц за доллар и 77 – за евро. Потому что не видно дна и в падении мировых цен на нефть – основного экспортного товара России. Другой удар по российской экономике наносят западные санкции, особенно финансовые. Динамика ВВП России на 2015 год ожидается отрицательной. ЕС и США подтвердили, что не собираются отменять санкции, пока Россия не выведет свои войска с оккупированных украинских территорий.

Как видим, курс белорусского рубля определяется множеством не только внутренних и внешних экономических факторов, но и факторами военно-политического порядка. Поэтому можно сколь угодно долго гадать, каким же курс белорусского рубля к доллару будет к концу года. И диапазон таких догадок специалистов весьма широк: от 17.000 до 30.000. Выбирайте любое значение между. Но истина, как говорится, ближе к середине.

Хотя в жизни все может быть. А вдруг Александр Лукашенко найдет подход к «старшему брату» Владимиру Путину и во время ближайшей встречи уговорит его отказаться от агрессивных планов по отношению к Украине – тогда мгновенно изменится ситуация на мировом нефтяном рынке, а это значит, что экономика России, а за ней и экономика Беларуси воспрянут. И не наступит финансовый коллапс.

Вот почему нам, гражданам Беларуси, остается только пожелать Александру Григорьевичу найти в себе силы остановить Путина как главного донора сепаратистов так называемых Донецкой и Луганской народных республик. Пока в Украине будет война, ничего хорошего не стоит ожидать ни россиянам, ни белорусам.

ЗА КРАТАМІ

# *Застаецца толькі жартаваць...*

*Мікалаю Статкевічу не змянілі рэжым адбыцця пакарання*

Аб гэтым палітвязень паведаміў у лісце сваёй жонцы Марыне Адамовіч.

«16 студзеня выклікалі на камісію па замене рэжыму. Гэта праводзіцца без усялякіх заяў ад арыштантаў – калі тэрмін прыйдзе, – піша Статкевіч. – Вынік чаканы, але здзівіла фармулёўка. Я «не стаў на шлях выпраўлення», таму што «не ўдзельнічаў у працы самадзейных арганізацый» і «ўхіляўся ад грамадскай працы».

“Безумоўна, на такі шлях я не стаў, бо невінаватаму чалавеку гэта без патрэбы. А вось як у адзіночцы весці “грамадскую працу” і “ўдзельнічаць у арганізацыях” – гэта пытанне”, – іранізуе аўтар ліста.

ФОТАФАКТ

# Волат



**У Віцебску ў сям’і Юліі і Івана Сахаравых нарадзіўся хлопчык вагой 6 кілаграмаў 190 грамаў і ростам 59 сантыметраў. У гонар дзеда яго назвалі Андрэем. У немаўляці ёсць 10-гадовая сястрычка і 3-гадовы брат. А яго бацькі шчыра прызнаюцца: дзіця было незапланаванае, але жаданае. Дарэчы, першы хлопчык у сям’і Сахаравых таксама нарадзіўся крупным – 5 кілаграмаў 100 грамаў.**

ШОПІНГ

# *Пакінулі ў Польшчы каля 270 мільёнаў долараў*

*Беларусы летась купілі ў Польшчы тавараў на 1 млрд злотых, што складае каля 270 мільёнаў долараў. Прычым гэта сумма толькі тых тавараў, на якія беларусы афармілі TaxFree.*

Такую статыстыку прадаставіла мытная служба Падляшскага рэгіёна, сталіца якога горад Беласток. Як паведаміў кіраўнік і дырэктар Мытнай Палаты ў Беластоку Міраслаў Сянкевіч, толькі на падставе дакументаў TaxFree атрымліваецца, што грамадзяне Беларусі пакінулі ў Польшчы 1 млрд злотых. Агулам, па звестках падляшскіх мытнікаў, было зарэгістравана больш за 1 мільён 230 тысяч дакументаў TaxFree. Сянкевіч дадаў, што ў параўнанні з 2013 годам колькасць турыстаў з Беларусі знізілася на 3%.

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

# Неанацыст у ролі... эксперта

***На пачатку снежня аршанец Ігар Казмерчак паглядзеў беларускі тэлеканал СТБ і звярнуўся да міністра інфармацыі Лiліі Ананіч.***

*“3 снежня 2014 года ў эфіры тэлеканала СТВ (Сталічнае тэлебачанне) у 18.30 распачалася праграма «Нам и не снилось. Рождённые верой. 2-я серия»,* – напісаў ён. – *У гэтай перадачы ў якасці эксперта (у тытрах пад прозвішчам ён пазначаны як «лидер общественного движения») быў паказаны грамадзянін Расійскай Федэрацыі Максім Марцінкевіч. Той самы Марцінкевіч, які ў асяродку неанацыстаў і сучасных прыхільнікаў фашызма вядомы пад мянушкай “Цясак”.*

*Сталічнае тэлебачанне паказала Марцінкевіча як эксперта, а, значыць, чалавека, які з’яўляецца аўтарытэтам і да ягонага меркавання варта прыслухоўвацца. Чым жа знакаміты гэты “лідар грамадскага руху”. Першы раз ён праславіўся ў асяродку сучасных фашысцкіх рухаў тым, што патрапіўшы па прызыву ў войска Расійскай Федэрацыі збіў свайго саслужыўца па прычыне нацыянальнай варожасці – саслужывец быў выхадцам з Каўказа. Тады па рашэнні псіхіятараў Марцінкевіч быў камісаваны з войска. Пазней ён быў стваральнікам некалькіх грамадскіх арганізацый, дзейнасць якіх была забаронена на тэрыторыі Расіі пастановай суда, як арганізацыі фашысцкай ідэалогіі. Сам Марцінкевіч тройчы прыгаворваўся судом да розных пакаранняў за распальванне міжнацыянальнай варожасці. Зараз па тым жа артыкуле адбывае чарговае пакаранне ў калоніі. Марцінкевіч шмат разоў публічна казаў пра тое, што з’яўляецца прыхільнікам нацыянал-сацыялізму.*

*Першы раз (на 24-й хвіліне запісу) у эфіры паказанай на СТВ перадачы Марцінкевіч з’яўляецца пад час самасуда, які ўчыніў разам са сваімі паплечнікамі і проста на камеру наносіць удар чалавеку. Другі раз ён з’яўляецца на 42 хвіліне і разважае на тэму, што такое грэх. Пры гэтым другі раз ён апрануты ў майку з лагатыпам фірмы “White rex” (схаваная рэклама), якая спецыялізуецца на выпуску вопраткі для неанацыстаў. У асартыменце фірмы ёсць і майкі са стылізаванай свастыкай...*

*І вось такога чалавека выдае за эксперта, аўтарытэта, лідара Сталічнае тэлебачанне. Тэлебачанне той сталіцы, якая была амаль цалкам знішчана пад час вайны з фашыстамі. Сталіцы той краіны, дзе ў кожнай ці амаль у кожнай сям’і нехта загінуў ад рук фашыстаў.*

*Шаноўная Лілія Станіславаўна, мне падаецца, што паказ такой перадачы ў эфіры дзяржаўнага тэлебачання ўскосна таксама падпадае пад артыкул пра заклік да міжнацыянальнай варожасці. Калі і не магчыма прыцягнуць рэдактароў і кіраўніцтва тэлеканала СТВ да адказнасці крымінальнай ці адміністратыўнай, то яны павінны панесці маральную адказнасць за прапаганду фашыстаў. Калі сёння “не даць па руках” за паказ сучаснага лідара нацыстаў у эфіры, то заўтра нам пакажуць Гітлера як маральнага аўтарытэта.*

*У сувязі з вышэй напісаным прашу вас:*

*– Даць ацэнку з юрыдычнага і маральнага пункту гледжання дзеяннем тых адказных асобаў, якія дапусцілі ў эфір СТВ праграмы якая папулярызуе сучасных дзеячоў фашызму;*

*– Прыняць меры па недапушчэнні ў далейшым з’яўлення на тэлебачанні лідараў сучасных фашыстаў у якасці экспертаў ці аўтарытэтаў;*

*– Пасадзейнічаць таму, каб цыкл перадачаў “Нам и не снилось” і іншых перадачаў сумніўнага характару якія транслююцца на СТВ зніклі з эфіру беларускіх тэлеканалаў.*

*– Пра прынятыя меры, прашу паведаміць ў адведзеныя законам тэрміны...”*

*(Аўтарская арфаграфія пісьма захавана.)*

Мяркую, чытачы звярнулі ўвагу на абгрунтаванасць пісьма І.Казмерчака. Сапраўды, ці ж трэба даваць эфір неанацыстам?

Міністр інфармацыі **Лілія Ананіч** сама з гэтым пытаннем разбірацца не стала. Па крайняй меры адказ Ігар Казмерчак атрымаў за подпісам намесніка міністра інфармацыі **Сяргея Хільмана.** Яшчэ нядаўна ён узначальваў Галоўнае упраўленне ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Мінгарвыканкама, таму не па чутках, здавалася б, ведае, наколькі лёгка прыжываюцца (у першую чаргу ў маладзёжным асяродку) самыя прымітыўныя ідэалогіі накшталт неанацызму. І наколькі важную ролю ў гэтым адыгрывае роля асобы – лідара.

Але вось адказ С.Хільмана Ігару Казмерчаку:

«У праграме прыводзяцца розныя пункты гледжання на праблемы граху і самасуду, у якасці адной з іх прадстаўлена пазіцыя Максіма Марцінкевіча, – гаворыцца ў лісце. – У дадзенай праграме не змяшчаюцца заклікі да гвалту, прапаганды нацысцкай сімволікі і фашызму...” Атрымліваецца, намеснік міністра не ўбачыў парушэнняў Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сродках масавай інфармацыі». Іншымі словамі, “эксперт Цясак”, які за свае экстрэмісцкія “подзвігі” прайшоў турэмныя ўніверсітэты (вышэйшай адукацыі ён не мае), па меркаванні чыноўнікаў Мінінфарма – прымальны “эксперт” для беларускай аўдыторыі. А гэта значыць, што можна і далей чакаць з’яўлення на нашым тэлебачанні лідараў сучасных фашыстаў у якасці экспертаў ці аўтарытэтаў...

Так мы далёка зойдзем.

...У рускага слова «брезговать» ёсць адразу некалькі беларускіх аналагаў – “грэбаваць”, “гідзіцца”, “брыдзіцца”. І, што б там ні пісалі сённяшнія кіраўнікі Міністэрства інфармацыі, ёсць персанажы, скажам, неанацысцкага кшталту, якім прыстойныя СМІ ніколі не дадуць пляцоўку для выказвання думак. І не місія дзяржаўнага органа заплюшчваць вочы на рэальныя факты.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ДАЛІКАТНАЯ ТЭМА



# Метамарфозы мітрапаліта Паўла

Як раней паведамлялася, кіраўнік Беларускай Праваслаўнай Царквы Мітрапаліт Павел "адхрысціўся" ад сваёй жа прапановы, агучанай на Агульным сходзе епархій Мінскай мітраполіі аб прадастаўленні Беларускаму Экзархату больш высокага статусу самакіравальнай царквы. Нагадаем, што сход адбыўся 16 снежня. Але літаральна праз месяц, 18 студзеня, прагучала супрацьлеглая заява.

У прыватнасці, на Агульным сходзе кіраўнік БПЦ гаварыў: "*Глядзіце –– у Эстоніі два епіскапы – самакіравальная царква, у Латвіі два епіскапы – самакіравальная, у Малдове пяць епіскапаў – самакіравальная, у нас 16 епіскапаў – мы не самакіравальная. Неяк нават крыўдна становіцца. Так што я буду, напэўна, узнімаць гэтае пытанне. Нават не ведаю, якая будзе рэакцыя і рашэнне, але паколькі мы* (апладысменты)*… Дзякуй за падтрымку. Дваццаць гадоў таму мяне гэта не вельмі кранала, сёння мяне гэта кранае, таму што тут ужо гонар Беларускай Праваслаўнай Царквы* (апладысменты). *Сёння Руская Праваслаўная Царква, якая знаходзіцца тэрытарыяльна ў межах Расійскай Федэрацыі, гэта, самі разумееце, магутная царква, Украінская Праваслаўная Царква таксама магутная царква, а трэцяя ж ідзе – Беларуская! Таму, вядома, калі з вашага боку будзе падтрымка, пытанне гэтае будзем узнімаць, калі з вашага боку будуць накіраваны яшчэ і пажаданні і лісты, тады будзем абмяркоўваць, тады будзем выносіць гэтае пытанне на рашэнне*". Пры гэтым ён зазначыў, што гэтае пытанне "*сапраўды хвалюе многіх, гэта не мае пытанне, не толькі мая заклапочанасць, а вельмі многіх людзей – і святароў, і свецкіх, і* ***кіраўнікоў дзяржаўных структур***".

Але прайшоў месяц, і усё той жа мітрапаліт Павел зняў пытанне з парадку дня, прычым, згодна з заявай, "на 25–50 гадоў". Пры гэтым патлумачыў: "*Сёння, вось ведаеце, на фоне таго, што адбываецца ў Еўропе і ў свеце, сёння вось гэтая думка – яна гучыць некалькі тэндэнцыйна. Ведаеце, у мяне склалася такое ўражанне, як быццам вось гэтую ідэю, з аднаго боку, яе спецыяльна сёння падкінулі, і яна сёння, як ніколі, не ў час прагучала, так? Хоць былі і апладысменты, было сказана шмат добрага ў гэты адрас*».

Чаму? Хто тыя "ворагі", якія падкінулі ідэю? Чаму яна несвоечасовая? Што ж насамрэч прымусіла кіраўніка царквы адмовіцца ад ранейшай прапановы за такі кароткі час? Усе гэтыя пытанні зараз шырока абмяркоўваюцца сярод веруючых, тэолагаў, святароў.



### Наталля ВАСІЛЕВІЧ,
*тэолаг, дактарант Рэйнскага ўніверсітэта Фрыдрыха Вільгельма:*

*– Мітрапаліт, па-першае, заявіў, што ідэя гэтая зыходзіла не ад яго самога, а была «падкінута з боку» і гэтую ідэю падкінулі святары, якія «бачаць мэту, але так і не могуць» толкам растлумачыць, у чым яна. Па-другое, на яго думку, гэтая ідэя «гучыць тэндэнцыйна» і «не ў час". Аднак не хто іншы, як сам мітрапаліт Павел, абраў час і месца для агучвання гэтай ідэі – быццам бы спантанна, адказваючы на пытанні публікі, ён закрануў гэтае пытанне, абсалютна выразна пазначыўшы мэту – павышэнне статусу, паколькі сённяшні статус Беларускай Праваслаўнай Царквы як Экзархата не адпавядае рэальнай значнасці Паместнай Беларускай Царквы ў структуры Рускай Праваслаўнай Царквы. Да таго ж на гэтую тэму ніхто, акрамя мітрапаліта Паўла, не выказваўся. Тым больш нязграбна выглядае яго спроба зваліць адказнасць на нейкіх яму аднаму вядомых бесталковых святароў, няздольных растлумачыць, у чым яны бачаць мэту. Ну хіба што ён размаўляў да сходу з нейкімі даверанымі людзьмі са святарства, якія і «падкінулі» яму гэтую ідэю. Але тады мітрапаліт Павел выстаўляе сам сябе зусім ужо ў неразумным святле. Не здолеў не купіцца на правакацыю, "спецыяльна падкінутую», як можна зразумець з яго ж слоў, ворагамі.*

*Пры гэтым характэрная дэталь аб'ядноўвае абедзве заявы – спасылка на нейкіх «многіх людзей», якія спачатку падтрымлівалі імкненне да самакіравання, а потым ужо з боку – «хваля абурэння». І не проста «многіх людзей", а нават «асноўнай масы». Застаецца загадкай, як мітрапаліт Павел вылічаў гэтую масу і адкуль чуў то «заклапочанасць», то «абурэнне»? Ні да рашэння сходу, ні пасля яго пытанне публічна не абмяркоўвалася.*

*Якія можна зрабіць высновы? Вядома, лёгка здагадацца пра сапраўдныя прычыны рэзкіх метамарфоз меркавання мітрапаліта з нагоды статусу самакіравання. Як відаць, яго ініцыятыва выклікала рэзкае непрыманне з боку патрыярха, і наўрад ці можна было чакаць іншай рэакцыі, улічваючы і палітычны момант, і наогул стратэгію цяперашняга патрыярха на цэнтралізацыю царкоўнай улады. Тое, што нават такая відавочная рэч аказалася для мітрапаліта сюрпрызам, яшчэ раз сведчыць аб непадрыхтаванасці пытання – ставілася наўгад і абапіралася на рускае «авось».*

*Што ж, можна адказаць: "З кім не бывае". Але ёсць у гэтай гісторыі значна больш непапраўныя наступствы асабіста для мітрапаліта Паўла. Наколькі лёгка будзе давяраць яму пасля таго, як ён хутка спалохана змяніў адну пазіцыю на процілеглую, ды яшчэ пры гэтым пераклаўшы адказнасць на іншых? Ці даравальна гэта для архіпастыра?*



### Георгій ВАЛКАВІНСКІ,
*святар Праваслаўнай царквы ў Амерыцы, жыве ў ЗША і не падпарадкоўваецца маскоўскаму патрыярху. Ён, у адрозненне ад праваслаўных святароў у Беларусі, можа не ўтойваць сваё прозвішча і свабодна выказваць свае меркаванні:*

*– Мітрапаліт Павел з'яўляецца стаўленікам Масквы, і яго дзеянні цалкам укладваюцца ў логіку пуцінскай палітыкі адносна Беларусі. Мітрапаліт з'яўляецца чалавекам сістэмы, і, такім чынам, ён не самастойны. Я думаю, што, магчыма, пытанне аб самакіраванні Беларускага Экзархата ён падняў для таго, каб дагадзіць нашаму «ўсенародна абранаму". А калі яму пагразілі пальцам з Масквы, ён і адступіўся.*

Што на гэты конт думаюць святары? У сакратарыяце запэўнілі, што ўсе архіепіскапы знаходзяцца на мерапрыемствах у Маскве, а без іх дазволу святары размаўляць на гэтую тэму з журналістамі не будуць. І сапраўды, пасля тэлефанаванняў у некалькі рэгіёнаў гэтая інфармацыя спраўдзілася. Апошні, каму ўдалося дазваніцца, быў **святар ІГАР** са Свята-Сімяонаўскага кафедральнага сабора ў Брэсце. Ён сказаў: "Прабачце, але я не буду нічога гаварыць на гэтую тэму".

### Сцяпан ВАЙТКЕВІЧ
*з дзяцінства хадзіў у царкву з бабуляй, а потым, калі стаў бацькам і дзедам, прыводзіў у храм сваіх дзяцей і ўнукаў. Ён вельмі ўсхвалявана ўспрыняў апошнія падзеі:*

*– Усё наша грамадства цяпер знаходзіцца ў трывожным стане з-за таго, што адбываецца ў нашых суседзяў. Расійскае войска акупіравала тэрыторыю Украіны плошчай ледзь не з тэрыторыю нашай краіны. Нам, беларусам, трэба зараз кансалідавацца і разам маліцца, каб гэтая навала абмінула нашу радзіму і нашым дзецям не давялося ваяваць за сваю зямлю з магутным ворагам. Нас не можа не насцярожваць мілітарысцкі дух у расійскім грамадстве. Мала таго, што ўся наша эканоміка і палітыка залежаць ад Расіі, дык і галоўны праваслаўны святар даў зразумець, што ён – стаўленік Масквы і будзе дзейнічаць у яе інтарэсах. Я ўжо не кажу, наколькі мы ўвогуле можам даверыцца пастару, які кажа то адно, то другое. Гэта прыкра.*



### Сяргей ЛЕПІН,
*прэс-сакратар Епархіяльнага ўпраўлення, протаіерэй:*

*– Усё было ўспрынята неадназначна, распачаліся віртуальныя бойкі. Царква – гэта ж не толькі духавенства. Паўстала праблема з інфармаванасцю насельніцтва і яго адукаванасцю. Адны палічылі, што мы запатрабавалі аўтакефалію, і нас падтрымалі. Іншыя пачалі спрачацца з тымі, хто за аўтакефалію. Мітрапаліт хацеў кансалідаваць грамадства, але гэтага не атрымалася. Мітрапаліт так і сказаў: "Нешта пайшло не так". Як кажуць медыкі: "Чаканы тэрапеўтычны эфект павінен быць суразмерны з рызыкамі". Жыццё царквы нечым нагадвае вайсковы марш-кідок, дзе вынік залічваецца па апошняму. Мы не можам сказаць: "Хлопцы, вы адсталі, ну і Бог з вамі, а мы пабяжым наперад". Мы вымушаны несці на сваіх плячах тых, хто не паспявае за намі. Духавенства Мінскай епархіі "за", а ў іншых ёсць тыя, хто "супраць".*

Самі вернікі супрацьлеглыя па сэнсе заявы кіраўніка Беларускай Праваслаўнай Царквы ўспрынялі з абурэннем. **Яўгенія ШЛЕГЕЛЬ** – верніца сталага веку. Яна непакоіцца, што метамарфозы поглядаў мітрапаліта не лепшым чынам паспрыяюць павелічэнню паствы:

*– Мітрапаліт Павел вымушаны падпарадкоўвацца Маскоўскаму патрыярху. Але ён тут, на месцы, у Беларусі, бачыць усе хібы і праблемы. Вось выказаўся пад апладысменты і атрымаў ад маскоўскага кіраўніцтва. Што ў такой сітуацыі рабіць простым вернікам? Чаму ніхто не падумаў, як яны гэта ўспрымуць? Мала таго, што ў храмах не гучыць беларуская мова і гэта вельмі не падабаецца людзям, дык цяпер яшчэ і гэта. Моладзь і так сыходзіць: хто да пратэстантаў, хто ў касцёлы... Не магу, канешне, гаварыць за ўсіх, бо шмат людзей, якія ў храм ходзяць папросту пару разоў на год – на Вадохрышча і на Вялікдзень і то могуць у сам храм і не зайсці. Я кажу пра вернікаў, якія сапраўды вераць. Разумееце? Так што ўсё гэта можа прывесці да таго, што наведвальнікаў праваслаўных храмаў будзе станавіцца ўсё менш і менш, бо моладзь будзе шукаць іншыя храмы, дзе ёсць беларушчына і не будзе хлусні.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

З ЗАКОНА

**Закон Рэспублікі Беларусь "Аб свабодзе веравызнання і рэлігійных арганізацыях"**

**Артыкул 13**

**"Кіраўніком рэлігійнай арганізацыі можа быць толькі грамадзянін Рэспублікі Беларусь".**

ДАСЛОЎНА

### МІТРАПАЛІТ ПАВЕЛ,
*адказваючы на пытанні журналістаў 22 студзеня 2015 года:*

**– Шчыра скажу, я не гатовы, адмовіўшыся ад расійскага грамадзянства, прыняць беларускае грамадзянства, каб юрыдычна заявіць пра тое, што я тут не «временщик».**

ЗЕМЛЯКІ




## Жывіце яшчэ!

*586 беларусаў перасягнулі стогадовы рубеж*

Пра гэта паведаміла Міністэрства працы і сацыяльнай абароны.

Прычым на 1 студзеня гэтага года ў краіне налічвалася 10 беларусаў ва ўзросце 110 гадоў і старэй. З іх па тры чалавекі – у Гродзенскай і Мінскай абласцях, па два – у Брэсцкай і Віцебскай абласцях.

Традыцыйна сярод айчынных доўгажыхароў лідзіруюць жанчыны: сваё 100-годдзе перасягнулі 497 жанчын і 71 мужчына.

Сярод рэгіёнаў краіны лідарам па колькасці доўгажыхароў з'яўляецца Гродзенская вобласць: тут на 1 студзеня бягучага года налічвалася 112 чалавек ва ўзросце больш за 100 гадоў. На другой пазіцыі геранталагічнага рэйтынгу – Мінская вобласць (104), на трэцяй – горад Мінск (78). У Віцебскай вобласці пражываюць 74 чалавекі, якія ўжо адзначылі свой векавы юбілей, у Брэсцкай вобласці – 71, у Гомельскай – 67, у Магілёўскай вобласці – 62.

Загадчык кафедры тэрапіі Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі (БелМАПА), доктар медыцынскіх навук, прафесар Мар'ян Прыстром у нядаўнім інтэрв'ю польскаму тэлеканалу "Белсат" распавёў, што не сутыкаўся з навуковымі спробамі высветліць, чаму менавіта Гродзенская вобласць у Беларусі трымае лідарства ў рэйтынгу доўгажыхарства. На здароўе, паводле яго слоў, моцна ўплывае навакольнае асяроддзе (каля 40%) і спадчыннасць (20%). Астатняе – гэта лад жыцця (харчаванне, умовы працы і побыту) і ўзровень сістэмы аховы здароўя. Да аварыі на Чарнобыльскай АЭС, адзначае Прыстром, больш за ўсё 100-гадовых жыхароў было на Гомельшчыне. Згодна з гэтым паказчыкам, Палессе знаходзілася побач з традыцыйнымі савецкімі лідарамі – Нагорным Карабахам і Грузіяй. Тады таксама ніхто не высвятляў, чаму палешукі жывуць так доўга.

Аднак сцвярджаць, што на змену лідараў уплывае толькі экалогія, не прыходзіцца. Самай чыстай ад радыяцыі, напрыклад, з'яўляецца Віцебская вобласць, а вось у спісе колькасці доўгажыхароў яна займае толькі чацвёрты радок. Затое ў тройку лідараў уваходзіць Мінск, хаця экалагічную абстаноўку ў мегаполісе ніяк не назавеш ідэальнай.

ЦІКАВЫЯ ФАКТЫ

## Ці ведаеце вы, што…

Нясвіж належаў роду Радзівілаў – аднаму з самых багатых у Еўропе. Многім у сваім непаўторным абліччы Нясвіж абавязаны творам італьянскага архітэктара Яна Джавані Марыі Бернардоні. Па яго праектах у XVI стагоддзі ўзведзены замак і фарны касцёл Божага Цела – першае на тэрыторыі Рэчы Паспалітай збудаванне ў стылі барока. У храме знаходзіцца адзін з буйнейшых у Еўропе некропаль княжацкага роду, які налічвае 102 саркафагі членаў сям'і Радзівілаў. Нясвіжскі замак уключаны ў спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

***

Адзін з трох усходнеславянскіх сафійскіх сабораў знаходзіцца ў Беларусі. Гэты манументальны помнік архітэктуры пабудаваны ў Полацку паміж 1044–1066 гадамі пры князю Усяславу Брачыславічу, празваным Чарадзеем, як сімвал роўнасці з самымі ўплывовымі старажытнарускімі гарадамі – Кіевам і Ноўгарадам, дзе таксама былі пабудаваны саборы ў гонар святой Сафіі.

ФОТАФАКТ




# Самы ёмісты Boeing у гісторыі «Белавія»

Boeing 737-800 папоўніў паветраны парк «Белавія». Гэта першае авіясудна дадзенага тыпу ў парку авіякампаніі і стане самым ёмістым у флоце. Самалёт прызначаны для перавозкі 189 пасажыраў у эканамічным класе абслугоўвання.

*«Мы плануем пачаць эксплуатаваць наш першы Boeing 737-800 у бліжэйшыя дні»,* – адзначыў дырэктар авіякампаніі «Белавія» **Анатолій Гусараў.** Беларускі авіяперавозчык набыў паветранае судна ў аператыўны лізінг на 6 гадоў. Паводле слоў Гусарава, гэты самалёт 2000 года выпуску, але ён знаходзіцца ў вельмі добрым тэхнічным стане. Раней паветранае судна эксплуатавала адна з нямецкіх авіякампаній. Яго кошт складае прыкладна 28 млн долараў, у той час як новы аналаг каштуе каля 100 млн долараў.

СТАЛІЦА

# Не прайшло і 22 гады

*Недабудаваны корпус стаматалагічнага факультэта Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі на вуліцы Платонава ўрэшце дабудуюць. Але замест медыцынскай установы з'явіцца чарговы бізнес-цэнтр.*





Будоўля стаматалагічнага факультэта БелМАПА распачалася тут яшчэ ў далёкім 1992 годзе. Планавалася, што гэта будзе сучасны васьміпавярховы будынак. Але пачаліся ліхія 90-я, потым у краіне змянілася кіраўніцтва, і ў 1996-м будоўля спынілася. Прычына – адсутнасць фінансавання. За чатыры гады, што вялося будаўніцтва, паспелі ўзвесці толькі тры паверхі.

І вось днямі агенцтва «Мінск-Навіны» паведаміла, што ААТ «Мосстройкомплект» на рэштках старога будынка ўзвядзе бізнес-цэнтр "Акадэмія". Даўгабуд кампанія набыла яшчэ ў 2012 годзе з аўкцыёну. Паводле слоў спецыялістаў ААТ «Мосстройкомплект», прафесійная экспертыза пацвердзіла надзейнасць існуючага падмурка. Дэманціраваць прыйдзецца толькі калоны будынка вышэй узроўню 2-га паверха, а таксама ненадзейныя перакрыцці і сцены. Падмурак і калоны, што застануцца, прывядуць у належны стан. Гэта сэканоміць час і сродкі на пачатковым этапе будаўніцтва.

Пачаць рэанімацыю аб'екта на вуліцы Платонава плануюць да красавіка гэтага года, а завяршыць будаўніцтва – у ліпені--верасні 2016 года.

Бізнес-цэнтр будзе складацца з двух карпусоў. На паверхах з другога па дзявяты размесцяцца офісы плошчай ад 22 да 700 кв. метраў.

ААТ «Мосстройкомплект» будуе не першы аб'ект у беларускай сталіцы. Ёсць у кампаніі і вопыт узвядзення будынкаў падобным спосабам. Так, у 2009 годзе «Мосстройкомплект» пабудаваў 11-павярховы бізнес-цэнтр «Тэрмінал» на вуліцы Веры Харужай на месцы аднаго з цэхаў Мінскай мэблевай фабрыкі.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

НАРОДНАЯ МЕДИЦИНА



# 10 рецептов от Ванги для исцеления организма

Научные достижения в области медицины помогают нам жить и даже выживать. Но известная болгарская провидица Ванга утверждала, что нельзя рвать тонкие нити, связывающие человека с природой.

На протяжении многих столетий люди изучали целебные свойства растений, минералов и передавали из поколения в поколение рецепты. Настои, настойки, отвары, масла и мази из растений помогают избавиться от различных недугов. Знаменитая провидица Ванга не только могла видеть и предсказывать будущее, она помогала многим людям вылечить ту или иную болезнь.

Ванга не отвергала методы лечения традиционной медицины. Неоднократно советовала обратиться к тем или иным врачам. Но при этом провидица говорила, что «чрезмерное употребление лекарственных препаратов вредит здоровью – лекарства закрывают дверь, через которую вместе с травами поступают силы природы, восстанавливающие нарушенное равновесие в организме больного». Для всякого, кто обращался к ней, она находила свой, отличный от прочих способ лечения, поскольку «каждый человек – это неповторимая Вселенная, и нарушения, происходящие в организме, у каждого свои».

Предлагаем вам ТОП-10 народных рецептов от Ванги.

## 1. Аллергия

1 ст.л. полыни вываривать в 0,5 л воды до тех пор, пока не останется половина. Принимать по 1 ч.л. 2–3 раза в день после еды.

## 2. Боли при артрите

При болях в суставах Ванга советовала использовать повязки. Взять около 100 г очищенных семян тыквы и клещевины, растереть с 30 г топленого коровьего масла. Затем в смесь добавить примерно 30 г меда, чтобы сделать состав вязким, и наложить на суставы как повязку. Иногда можно прибавить и 30 г уксуса.

## 3. Бессонница

Бессонница – заболевание прежде всего неврологического характера. Поэтому стоит разобраться с причинами ее возникновения. Для скорейшего засыпания Ванга рекомендовала спать на подушке, набитой лесным сеном или высушенным хмелем и другими растениями: листьями папоротника мужского, лавра благородного, орешника, цветами бессмертника, хвоей сосны, шишками хмеля, травами мяты, герани, душицы, лепестками роз.

## 4. Бронхит

Страдающему кашлем Ванга прописала в течение недели пить отвар льняного семени и не пить холодной воды. Еще один ее рецепт для лечения бронхита: в 0,5 л парного молока (можно свежего пастеризованного) отварить 2–3 листочка мать-и-мачехи, добавить топленого свиного сала на кончике ножа. Пить вечером по 1 кофейной чашке.

## 5. Выпадение волос

При выпадении волос Ванга советовала употреблять жирную пищу, бобовую муку, дынные семечки, глину, подорожник блошный. Не рекомендуется все кислое, соленое, терпкое, а также выдержанные вина. Также целительница рекомендовала мыть голову 2 раза в неделю отваром корня лопуха или ивы. Для приготовления отвара залить 1 стаканом кипятка 15 г корня и томить на малом огне 15 минут. Затем отвар настаивать в течение 30 минут и процедить.

## 6. Гипертония (высокое кровяное давление)

Сделать настой: 1 ложка сушеной белой омелы залить стаканом холодной воды и оставить на ночь. Настой принимать утром на голодный желудок. Еще Ванга советовала отвар: 1 ст.л. сушеных листьев терновника варить в 500 мл воды до кипения. Остудить и пить только утром в два приема на голодный желудок.

## 7. Отложение солей

Ванга советовала исключить из питания вареную пищу, которая дает отложение солей. Если вы не можете перейти на сыроедение, то принимайте настой лаврового листа: 5 г измельченного лаврового листа залить кипящей водой (300 мл), кипятить 5 минут на слабом огне. Затем воду вместе с листьями залить в термос (сняв с огня) и настоять 4 часа. Настой процедить и пить маленькими глотками, распределяя все количество на 12 часов (сразу не пить – дайте остыть). Эту процедуру повторяйте три дня.

## 8. Отеки ног

Пакет каменной соли растворить в 1 ведре холодной воды, взять носовой платок, намочить в этой воде и положить на поясницу. Как только платок нагреется, снова намочить в воде.

## 9. Ускорение обмена веществ (похудение)

Приготовить «кофе» из жженой дубовой коры и принимать три раза в день по 1 кофейной чашке до еды.

## 10. Экзема

Отвар из лопуха большого (репейника): 1 ст.л. измельченного корня лопуха большого залить 2 стаканами кипятка, кипятить полчаса, остудить, процедить. Принимать внутрь по полстакана 3–4 раза в день.

**Редакция предупреждает: прежде чем заниматься лечением этих болезней самостоятельно, вы должны обратиться к врачам-специалистам!**

ІНЦЫДЭНТ

# Бокс на футболе

***Матч чэмпіянату Беларусі па міні-футболе сярод каманд першай лігі паміж "МКК Рагачоў" і ФК "Жлобін" не быў дагуляны да канца. Галкіпер каманды гаспадароў, якая ў той момант саступала тры мячы, здзейсніў... напад на суддзю.***

Гульня дзявятага тура нацыянальнага міні-футбольнага першынства ў першай лізе, якая распачалася ў рагачоўскай спартыўнай зале "Арачнік", не абяцала быць такой ужо спакотнай. У госці да мясцовых спартсменаў, якіх спансіруе Рагачоўскі малочна-кансервавы камбінат (*адсюль і назва каманды.* – **Аўт.**) прыехалі саdespernікі са Жлобіна. Менавіта яны і лічыліся фаварытамі сустрэчы. Выйграваў "Жлобін" і ў нядзельнай сустрэчы. На табло гарэлі лічбы 2:5, калі, па сведчаннях відавочцаў, галкіпер "МКК Рагачоў" ударыў у твар суддзю сустрэчы.

Усе спробы высветліць падрабязнасці інцыдэнту поспехам не скончыліся – тэлефоны Асацыяцыі міні-футбола краіны маўчалі. Вядома, што гульню ў Рагачове абслугоўвала брыгада арбітраў з Гомеля – Дзмітрый Сазановіч і Яўген Харулёў. Хто з іх стаў пацярпелым, роўна як і што стала прычынай для такіх агрэсіўных паводзін з боку галкіпера каманды гаспадароў, – застаецца загадкай.

Адрозніваюцца і сведчанні відавочцаў інцыдэнту. Адны расказваюць: "Саступаючы з лікам 2:5, галкіпер рагачоўскай каманды ўдарыў суддзю, пасля чаго на арбітра сустрэчы накінуліся астатнія футбалісты "Рагачова" і балельшчыкі, якія прысутнічалі на матчы".

А вось яшчэ адно сведчанне выкладзена на адным з інтэрнэт-форумаў:

"Ну былі там два міліцыянеры, якія нібы ў тэатры назіралі за тым, што адбываецца. І ўся каманда ды балельшчыкі нікога не білі. Адзін галкіпер ударыў арбітра. Астатнія крычалі, магчыма, штурхалі, але ўдараў не было".

Паведамляецца, што супакоіць гарачых рагачоўскіх хлопцаў давялося супрацоўнікам праваахоўных органаў.

Так ці інакш, але, як кажуць, дыма без агню не бывае. Відавочна, што інцыдэнт будзе разглядацца ў Асацыяцыі. Аб выніках даведаемся пазней...

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

З НАГОДЫ

# *Уладзімір Канаплёў:* «Замежныя трэнеры, якія працавалі з нашымі клубамі, – ворагі народа»

***На чэмпіянаце свету па гандболе, які праходзіць у Катары, зборная Беларусі не дасягнула таго выніку, на які разлічвала. Гэта сумна. А яшчэ больш сумна, у якім стылі адрэагавала на выступленне каманды кіраўніцтва Федэрацыі гандбола.***

У папярэднім раўндзе беларускія гандбалісты прайгралі ў чатырох матчах з пяці (іспанцам, славенцам, бразільцам і зборнай Катара). Наша каманда не здолела выканаць галоўную задачу – заваяваць пуцёўку ў кваліфікацыю да Алімпіяды-2016. Прыкра, але гэта спорт, у якім без памылак не абыходзіцца. Тым не менш гульня зборнай прывяла проста-такі ва ўзбуджаны стан старшыню Беларускай федэрацыі гандбола **Уладзіміра Канаплёва.** Вось толькі некаторыя "смачныя" цытаты яго выступлення за "круглым сталом", на якім падводзіліся папярэднія вынікі выступлення нашай каманды на сусветным першынстве:

*"А вы, ігракі БГК (Брэсцкі гандбольны клуб імя Мяшкова. –* **Аўт.**)... *Ды вы ж гадамі атрымліваеце заробкі, якія прэзідэнт краіны не мае. Ні гімн праспяваць, ні згуляць. Адсядзецца, ні драпіны не атрымаць... Больш такога не будзе".*

*"Я не вельмі сумаваў, калі "Дынама" не стала: за нашы грошы там падымалі ўзровень замежных ігракоў. Скажу шчыра: замежныя трэнеры, якія працавалі з нашымі клубамі, – ворагі народа. Хіба што Бябешка (Сяргей Бябешка – былы ўкраінскі трэнер мінскага "Дынама". –* **Аўт.**), *які размаўляў з намі на адной мове, быў выключэннем".*

*"Камышык (Дзмітрый Камышык – ігрок беларускай зборнай. –* **Аўт.**) *– па здароўі лось, але ў яго заячае сэрца. Ён учора выскачыў – і мяч катарцу акурат у рукі. І кожны раз так. Я не сляпы і крыху ў гандболе разбіраюся. Юрый Анатольевіч (зварот да галоўнага трэнера зборнай Юрыя Шаўцова. –* **Аўт.**), *я вам так скажу: каб Камышыка ў зборнай больш... Такая ганьба, такая бездакназнасць. Я вам падкажу, каго ўзяць замест яго. Такія ігракі ў зборнай мне не патрэбны".*

Вось такім агнём паліў ігракоў былы спікер парламента Уладзімір Канаплёў, які і сам "у гандболе крыху разбіраецца".

*"Класічны партсход – няхай і не ў занюханым райвыканкаме, а ў катарскім атэлі,* – напісаў з гэтай нагоды калега з by.tribuna.com. – *Дарэчы, на такое мерапрыемства білеты трэба прадаваць. "Парк савецкага перыяду" ў чыстым выглядзе. "Я начальнік – ты дурань". Менавіта, што "ты". "Вось, Рэпкін, тваё месца, а ты, Новікаў, – сюды садзіся. Вы мяне, безумоўна, прабачце, але гэта не "адкрытая атмасфера". Давайце называць рэчы сваімі імёнамі – гэта хамства і савок".*

У нас ужо стала нейкай дрэннай нормай, што спартыўныя чыноўнікі могуць спартсмена аблаяць. Крытыку яны разумеюць па-свойму. Зрэшты, чаму здзіўляцца? Настаўнікі ж добрыя.

Дарэчы, пасля аднаго з няўдалых для беларусаў чэмпіянатаў свету па хакеі былы кіраўнік Міністэрства спорту і турызму Алег Качан таксама абрушыўся на варатара Андрэя Мезіна: маўляў, чаму той шайбу зубамі не лавіў? Мезіна балельшчыкі да гэтага часу помняць і любяць. А дзе зараз Качан?..

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**P.S.** *Зараз на чэмпіянаце свету зборная Беларусі разам з расіянамі, баснійцамі і чэхамі пазмагаецца за 17–20-е месца. Учора беларусы перамаглі каманду Босніі і Герцагавіны – 37:29.*

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# У Італію Дар'ю Домрачаву прыехала падтрымаць уся яе сям'я

***Трохразовая алімпійская чэмпіёнка, беларуская біятланістка Дар'я Домрачава перамагла на этапе Кубка свету ў італьянскім Антхольцы два разы запар!***

Пасля трыумфу ў спрынце Домрачава ўжо на наступны дзень не менш бліскуча перамагла і ў гонцы пераследу. Брава, Даша!

Дарэчы, падтрымаць спартсменку ў Італію прыехалі і яе родныя. Магчыма, гэта таксама дадало ёй сіл.

*"Мама Дашы і брат Мікіта адправіліся ў Італію, здаецца, яшчэ 21 студзеня,* – распавёў "Народнай Волі" дзядзька трохразовай алімпійскай чэмпіёнкі **Мікалай МІШЫН**. – *Запланавалі сямейную паездку зараней, штогод гэта такая традыцыя. Будуць там адпачываць, катацца на лыжах у гарах. Тым больш што наступны этап Кубка свету пачнецца толькі 6 лютага, так што, напэўна, і Даша з блізкімі пабудзе. Для яе гэта таксама вялізная падтрымка".*

Па словах Мікалая Аляксеевіча, з пляменніцай ён бачыцца не вельмі часта, аднак "зорнасці" пасля алімпійскага трыумфу ў Дашы не з'явілася.

*"Звычайна сустракаемся перад пачаткам сезона і пасля яго заканчэння,* – дадае суразмоўца. – *Скажу толькі, што пляменніца як была светлым і шчырым чалавекам, такім і засталася. "Зорная" хвароба яе не зачапіла".*

**Алесь СІВЫ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Ці вернецца Вікторыя Азаранка ў эліту сусветнага тэніса?

***Валянціна Ягораўна Ржаных, першы трэнер беларускай тэнісісткі Вікторыі Азаранка, верыць, што ўжо ў гэтым годзе яе вучаніца будзе ў дзясятцы мацнейшых.***

Учора ноччу ў матчы 4-га раўнду Адкрытага чэмпіянату Аўстраліі па тэнісе наша зямлячка прайграла славачцы Дамініцы Цыбулкавай і пакідае турнір, які яна выйгравала ў 2012 і 2013 гадах.

– Так, Віка саступіла, але ж бачна, што яна аднаўляецца пасля траўм, – кажа Валянціна Ягораўна. – Што ж вы хочаце, чалавек амаль увесь мінулы год не гуляў! Але, думаю, усё будзе нармальна, і ў гэтым сезоне тэнісістка вернецца ў дзясятку мацнейшых. Старт у яе добры!

**– З чым вы звязваеце спад у гульні Вікторыі? Толькі з траўмамі?**

– А што, гэтага мала?

**– Некаторыя кажуць, што раман з бой-фрэндам Рэдфу таксама сказаўся. Ёсць тут крыху праўды?**

– Маладая дзяўчына можа і закахацца, гэта ж нікому не забараняецца. Гэта часам, наадварот, дадае сіл на корце. Гледзячы якое каханне. Раней у Вікі былі і іншыя хлопцы, падчас размовы са мной яна казала, што гэта не перашкаджае ёй напоўніцу аддавацца рабоце.

**– Але ж сама Вікторыя прызналася, што пасля развітання з Рэдфу ў яе была дэпрэсія...**

– У жанчын такое бывае. І мужчынам гэтага не зразумець. Дэпрэсіўны стан можа сказацца на спартсменцы, але трэба расстаўляць прыярытэты. Шэраг траўм, якія ішлі адна за другой, проста падкасілі Віку ў мінулым годзе. Усе тэнісісткі праз гэта праходзяць. Тая ж Серэна Уільямс таксама год не выступала, а зараз у рэйтынгу яна на першым месцы.

**– Ці верыце, што Вікторыя Азаранка можа зноў стаць першай ракеткай свету?**

– Нічога немагчымага няма. У гэтым годзе ёй споўніцца 26 гадоў. Для жаночага тэніса – самы ўзрост!

**Алесь СІВЫ.**

СЛЫШАЛИ?

# *Самый модный цвет 2015 года*



Каждый год специалисты Института цвета Pantone выбирают цвет года. В 2015 году самым модным цветом был выбран цвет "марсала".

Марсала – это коричневато-красный цвет, который можно описать как "стойкий, надежный, приносящий удовлетворение", приземленный цвет вина, "ненавязчиво соблазнительный".

"Как и крепленое вино марсала, этот изысканный цвет воплощает собой богатство трапезы, приносящей удовлетворение, в то время как его красно-коричневые корни излучают утонченную естественную приземленность", – утверждают в Pantone.

Институт выбирает новый цвет года, основываясь на мнении модниц, а также экспертов в области музыки, туризма, кино и технологий.

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ



# *Как вырастить розу из картошки?*

Если вам подарили розу, которая вам безумно нравится, и вы хотите вырастить такую же для своего сада, то отправляйтесь в магазин за картошкой. Оказывается, в картошке содержится идеальный набор питательных веществ и влаги для срезанных роз.

Можно воткнуть свежесрезанный стебель в картофелину (предварительно проделав в ней дыру толстым гвоздем или отверткой), и цветок не только проживет дольше, но и пустит корни. Потом останется только посадить розу вместе с клубнем в грунт.

ШАШКІ

# *Міжнародны конкурс*



Менавіта такое значэнне меў "Мема-рыял Л.С.Вітошкіна-2014". У арбітражную калегію ўваходзілі Р.Шаяхметаў (Расія), Р.Мацкявічус (Літва), В. Варушыла, М.Грушэўскі і В. Шульга (Беларусь). Па іх ацэнках у катэгорыі А прызавыя месцы занялі эцюды-64: 1-е (90,66 ачка па змесце) і 2-е (81,66) П.Шклудава з Наваполацка, 3-е (78,33) А.Кацюхі з Украіны, 4-е (64,33) М.Цветава з Ізраіля і 5-е (58,33) украінца В.Трафіменкі. У катэгорыі В вызначыліся эцюды-100 Ёхана Басціянета, Нідэрланды (93,5 ачка), А.Нырава, Расія (88,5), А.Маісеева, ЗША (80,5), М.Цветава (69,25) і П.Шклудава (68,75). Прызёрам налічваюцца балы для прысваення міжнародных званняў.

Прыемна адзначыць, што Пётр Шклудаў з'яўляецца нашым пастаянным аўтарам. Пазнаёмцеся з яго творамі:

1.**Белыя**: f2, дамкі b2, g3 (3). **Чорныя**: a5, c7, d6, f8, g5, дамка e1 (6). Эцюд-64: h4, e1 (b6A) g3 (dc5) h4 (f4) c1 (ab4) h6 (a3B) f6 (e7) a5 (b2) c3, d2+. A(c5) h4 (f4) c1 (ab4DEF) h6 (c3) f6 (d4) hg5 (d6) e7 (e5) a3 (g7) d8 (f4GHJK) c5, f8+. B (c3) f6 (d4) f4 (c5C) h8(g7) f6 (b4) h8 (a3) fe5, a1+. C(a5), h8 (e3), fb4+. Астатнія варыянты разбярыце самастойна. Свае рашэнні вы зможаце праверыць у наступным выпуску рубрыкі.

2.**Белыя**: 42, дамкі 47, 49 (3). **Чорныя**: 18, 22, 24, 27, 32, 34 (6). Эцюд-100: 42 (30ABC) 42-38, 16 (39DE) 11 (27) 35 (43) 39, 44+. A(29) 41 (38) 16 (23) 19 (40), 7 (45) 40, 2 (40) 11 (27) 50 (45F) 37+. B(39) 41 (28) 36 (22) 31, 43 (41) 37+. C(37) 31 (29) 21 (40) 12, 27, 45+. D(40) 16-27+. E(35) 7 (35-40) 29, 45+. F (32) 39 (45) 50+.

## Праверце рашэнні

**"Шашкі ў Эстоніі"**. А.Булатаў: 1. 29-24 20:27 (узяцце большасці шашак). 2. 37-31 22:33 3. 32:2х. Удакладняем, што былі прыведзены асаблівасці бразільскіх шашак. У іх гульня ідзе па правілах стоклетак, якія адрозніваюцца ад рускіх шашак наступным: неабходна збіваць найбольшую колькасць фігур; калі шашка трапіла на апошнюю гарызанталь і можа прадоўжыць ударны ход як простая, яна па-ранейшаму застаецца ёю, а калі ж такая магчымасць адсутнічае з-за свабоднага пераддамачнага поля пасля ўдару, шашка ператвараецца ў дамку, але яе правы набывае праз ход.

Разбярыце вучэбны прыклад:

**Белыя**: 36, 38, 40, 41, 42, 43, 44, 46 (8). **Чорныя**: 8, 14, 17, 19, 27, 28, 29, 35 (8). 1. 38-33 28:37 (знішчэнне найбольшай колькасці шашак (33, 43 і 42) і 28 застаецца простай – першае і другое адрозненні) 2. 41:3 (далей браць нельга – трэцяе адрозненне)х.

Паглядзіце, як галандскі гросмайстар Роел Бомстра выкарыстаў трэцяе адрозненне на 4-м ходзе белых у пазіцыі з партыі першынства Еўропы:

**Белыя**: 15, 23, 24, 33, 34, 43, 47(7). **Чорныя**: 4, 11, 12, 13, 17, 25, 26, 37 (8). 1...37-41 2. 47:36 26-31 3. 36:27 4-10 4. 15:4 13-18 5. 4:22 з пройгрышам белых.

**Мікалай ГЛАДКІ.**

ЛЮБОПЫТНО...

# *25 цитат Коко Шанель о том, как победить мужчину*



Коко Шанель прожила 87 лет, элегантно, но бескомпромиссно изменив мир моды навсегда. Благодаря ей мы носим приталенные пиджаки, которые раньше доставались лишь мужчинам, маленькое черное платье, против которого в переговорах бессильны любые аргументы, роскошные ароматы, делающие нас единственными, и прямо говорим мужчине все, что про него думаем. «Газета.Ru» выбрала самые яркие высказывания знаменитого французского модельера, полагая, что жизнь нужно прожить так, чтобы и ваши высказывания стали легендой.

1. Красота нужна нам, чтобы нас любили мужчины, а глупость – чтобы мы любили мужчин.

2. В двадцать лет женщина имеет лицо, которое дала ей природа, в тридцать – которое она сделала себе сама, в сорок – то, которое она заслуживает.

3. Остерегайтесь оригинальности – в женской моде оригинальность может привести к маскараду.

4. Изобретать собственную моду могут позволить себе только молодые женщины. Зрелые и стареющие женщины должны следовать господствующей моде.

5. Чтобы быть незаменимой, нужно все время меняться.

6. Мужчинам нравятся женщины, которые одеты хорошо, но не слишком бросаются в глаза.

7. Уход за собой должен начаться с сердца, иначе никакая косметика не поможет.

8. Как ни крути, женщина в жизни мужчины бывает только одна, все остальные – ее тени.

9. Главное для женщины – постоянно работать. Только работа дает бодрость духа, а дух в свою очередь заботится об участи тела.

10. Женщину, одетую в светлое, трудно привести в дурное настроение.

11. Кружево – самая прекрасная имитация фантазии природы. А жемчуг всегда прав.

12. Женщины хотят меняться. Они не правы. Счастье в постоянстве и в том, чтобы не изменять себе.

13. Руки – визитная карточка девушки, шея – ее паспорт, грудь – загранпаспорт.

14. Есть время работать и есть время любить. Никакого другого времени не остается.

15. Женщины, как правило, гораздо тщательнее выбирают для себя ночную рубашку, чем мужа.

16. Я оцениваю людей по их манере тратить деньги. Никогда не выходите замуж за мужчин с кошельком для мелочи.

17. Женщины могут позволить себе выглядеть смешными. Разумеется, я говорю о немногих женщинах. Смешной же мужчина – конченый человек, если он не гений.

18. Если вы хотите иметь то, что никогда не имели, вам придется делать то, что никогда не делали.

19. Если женщина изменяет, не надо искать тут разумных причин: все дело не в разуме, а в чувствах.

20. Говорят, что женщины одеваются ради женщин, что их вдохновляет дух соперничества. Это правда. Но если бы на свете больше не осталось мужчин, женщины вообще перестали бы одеваться.

21. Когда приходится выбирать между мужчиной и платьями, выбирайте платья.

22. Красивых мужчин быть не должно, а некрасивых не бывает. Бывает только мало цветов и теплое шампанское.

23. Парадокс заключается в том, что чем глупее и бездарнее мужчина, тем больше у него претензий к женщине.

24. Сдерживать себя, когда обидно, и не устраивать сцен, когда больно, – вот что такое идеальная женщина.

25. Кокетство – это победа разума над чувствами.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл. (017) 3286871.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286609, 3286906**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

9 772071 964000 15007

**Падпісныя індэксы:** **63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 26.01.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25200 экз. Заказ №98.**